


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.; ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 49 (383) Нядзеля, 8 сьнежня 1957 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Гэтак хвальшуецца гісторыя

У нумары першым «Весьцяў Акадэміі Навук БССР — Сэрыя грамадзкіх навук» за бягучы год сябра-карэспандэнт Акадэміі навук БССР С. Маргунскі зьмясьціў артыкул пад назовам «Зь гісторыі ўтварэньня Беларускай савецкай дзяржаўнасьці». Гэты артыкул зварочвае на сябе ўвагу зь дзьвюх прычынаў: гэта ў першую чаргу, што аўтар успамінае шмат фактаў зь гісторыі беларускага народу часоў грамадзянскай вайны, пра якія зусім не гаварылася на працягу шматлікіх гадоў расейска-бальшавіцкага панаваньня, і ў другую, — што ў сваіх высновах ён далёка разыходзіцца з тымі пададзенымі фактамі, не гаворачы ўжо пра знарок замоўчваньня. І галоўна супярэчны й незразумелы канчатковы вывад, які гучыць наступна: «Толькі пры пастаяннай дапамозе ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай краіны і ў першую чаргу вялікага расейскага народу, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, пры пастаянных клопатах і асабістай увазе В. І. Леніна беларускі народ у жорсткай барацьбе зь іншаземнымі інтэрвэнгамі, белагвардзейцамі, буржуазнымі нацыяналістымі і іншымі ворагамі працоўнага народу ў 1918-1920 гг. змог адстаяць сваю свабоду і незалежнасьць, упяршыню ў шматвяковай гісторыі стварыць сваю самастойную дзяржаўнасьць...» (б. 32-33).

Пакідаючы збоку даніну аўтара «ленінскай нацыянальнай палітыцы» камуністычнай партыі і расейскаму народу, які быццам-бы даў Беларусам іхнюю дзяржаўнасьць, зьвернемся да канкрэтнага матар'ялу.

На бачынках 13 і 14 С. Маргунскі гаворыць, што ў Беларусі й на Заходнім фроньце «за палітыку брацкага адзінства народаў Расеі» працавалі й вялі вялікую палітычную работу па заданьню ЦК кампартыі старыя бальшавікі М. В. Фрунзэ, Л. М. Кагановіч, А. Ф. Мясьнікаў, што працоўныя масы Беларусі стаялі за Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (ведама Расейскую) і што ў той час «буржуазныя й дробнабуржуазныя нацыяналістычныя элемэнты ўсімі сіламі змагаліся за стварэньне буржуазна-дэмакратычнай Беларусі». Гэтыя элемэнты, у тым ліку і «Беларуская Сацыялістычная Грамада, ня ладзілі з адзінанедзялімаўскімі земскімі й гарадзкімі самакіраўніцтвамі, пасылалі свае дэлегацыі да Часовага Ўраду Керанскага ў справе стварэньня аўтаномнае Беларусі, што нарэшце іх моцна скампраметавала ў ваччу беларускага народу. Адным словам, паводля аўтара, беларуская ідэя ляжала на лапатках З кастрычніцкімі пераваротамі ў Петраградзе савецкая ўлада аўтаматычна ўстанаўліваецца й на Беларусі. Пра скліканьне й прабег Першага Ўсебеларускага Кангрэсу аўтар нічога не гаворыць, успамінаючы толькі, што такі зьезд (у чужаслоўі) адбыўся ў канцы 1917 году і што ён быў «распушчаны» як варожы савецкай уладзе (б. 18).

Справу абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918 г. С. Маргунскі зьвязвае зь нямецкай агентурай (б. 18), не ўспамінаючы ні слова пра тое, што нямецкія ўлады, таксама як і савецкі ўрад на чале зь Ленінам, ставіліся варожа да ідэі незалежнасьці Беларусі. Ён не ўспамінае таксама ні слова пра Берасьцейскі расейска-нямецкі дагавор, каторым разразалася жывое цела Беларусі, затое цьвердзіць ўсьцяж, што «працоўныя Беларусі ня прызнавалі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, лічачы сябе неразрыўна зьвязанымі ў вадной працоўнай сям'і з свабоднай Расейскай Савецкай Рэспублікай» (б. 19).

Але вось пачало шыло вылазіць зь мяшка. На тэй-жа 19 бачынцы аўтар ні з таго ні зь сяго сьцьвярджае: «Праходзіўшая 30-31 сьнежня 1918 г. VI абласная Паўночна-Заходняя канфэрэнцыя РКП(б), улічваючы, што на ёй былі прадстаўлены поўнасьцю ўсе партыйныя арганізацыі, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, аб'явіла сябе першым зьездам камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Зьезд, **выражаючы волю працоўных мас,** прыняў рашэньне абвесьціць Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусі і стварыць часовы рабоча-сялянскі ўрад».

Праўда, тут трэба аддаць належную ўвагу аўтару за тое, што ён, гаворачы пра абвешчаньне першай ССРБ 1 студзеня 1919 году, успамінае ўсё такі, што яна была абвешчана на тэрыторыі Гарадзенскай, Віцебскай, Магілеўскай, Менскай і Смаленскай губэрняў. Аднак зусім незразумелае ягонае цьверджаньне, чаму так раптам працоўныя масы Беларусі зажадалі свае незалежнае рэспублікі? Пабачым далей, хто вінаваты ў такіх хуткіх пераходах: цьвярозы гісторык ці ягоная бальшавіцка-расейская лёгіка.

На бачынцы 21 С. Маргунскі ўспамінае пра «Першы Ўсебеларускі зьезд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў», які праходзіў у Менску ад 2 да 4 лютага 1919 году. Успамінаючы, што гэты зьезд прыняў пастановы аб дзяржаўным ладзе, вызначыў дзяржаўныя межы і прыняў канстытуцыю БССР, заканадаўча афармляючы такім чынам стварэньне Беларускай Савецкай Рэспублікі, аўтар прамоўчвае аднак, чаму на гэтым зьезьдзе ад гэтага «сувэрэннага» гаспадарства Беларусі былі адарваныя Магілёўшчына, Віцебшчына й Смаленшчына, і чаму таксама з ураду гэтае БССР былі выгнаныя амаль што ўсе Беларусы на чале зь першым ягоным старшынём Жылуновічам? Была тут таксама «воля народу», ці, як аўтар любіць паўтараць, «воля працоўных масаў»?

Шкада, што для выясьненьня справы аўтар не зьвярнуўся да тых-жа савецкіх крыніцаў, у гэтым выпадку хоць-бы да зборніку дакумантаў «Образование СССР (1917—1924)», выдадзенага ў 1949 годзе пад рэдакцыяй Э. Б. Генкінай. У заўвагах да гэтага зборніку, на бачынцы 454, зусім адкрыта сказана: «Зьезд даў адпор выступленьням замаскаваных ворагаў народу (Жылуновічу, Чарвякову й іншым, што дамагаліся асобнай незалежнай камуністычнай партыі Беларусі». Плюс да гэтага іхнія тэрытарыяльныя дамаганьні! С. Маргунскі трымаецца аднак канцэпцыі пра «волю народу», бо ён верыць (б. 22), што яшчэ ў сьнежні 1918 году Беларусы, дзеля дабра «рэвалюцыі», зракліся свае незалежнасьці і «выказалі пажаданьне на аб'яднаньне рабочых Летувы й Беларусі для пасьпяховай барацьбы зь беларуска-літоўскай буржуазіяй», што, «улічваючы гэтыя пажаданьні двух народаў», Цэнтральны камітэт РКП(б) на прапанову Леніна ўжо ў канцы студзеня 1919 году прыняў пастанову аб зьліцьці Беларускай і Літоўскай Савецкіх Рэспублікаў у вадзіную Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку. С. Маргунскі сьцьвярджае таксама, што гэтая пастанова ЦК РКП (б) ужо абмяркоўвалася ў Менску 2 лютага таго-ж 1919 году пад час працы так званага «Першага Ўсебеларускага зьезду Саветаў», на якім афармлялася ССРБ ці пазьнейшая БССР. Выходзіць такім чынам, што Беларусы аднэй рукой будавалі сваю «незалежную дзяржаву», разбураючы яе другой.

Як ведама, аб'еднаньне Беларускай Савецкай Рэспублікі зь Летувіскай Савецкай Рэспублікай наступіла 27 лютага 1919 году. Аб гэтым гаворыць таксама аўтар артыкулу, успамінаючы пра бязьдзейнасьць гэтага новага маскоўскага твору й пра ягоную тэрытарыяльную беднасьць. Аднак незразумела, чаму й тут ён едзе на «дабравольнасьці» беларускага народу, бачачы із сваіх-жа досьледаў, як бяссорамна рабазаўся гэты народ.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Хор нявольнікаў

Даводзіцца часта чуць, што галоўнай нутраной, не накіненай праграмна, мэтай кажнай свабоднай літаратуры — ёсьць перадусім імкненьне да ўдасканальваньня чалавека, а ў канчальным выніку — да фармаваньня лепшых нацыянальных арганізмаў, да тварэньня новага й лепшага чалавецтва наагул.

У гэтай агульнай нутраной высокай мэтанакіраванасьці ўсе свабодныя нацыянальныя літаратуры маюць шмат супольнага і адначасна вельмі шмат свайго, арыгінальнага, непаўторнага, але будучы свабоднымі, яны здольныя свабодна і выявіць усе падабенствы, а таксама й самабытнасьці.

Гэтакай і была калісь наша родная беларуская літаратура, аж пакуль не апынулася ў вабцугах партыйна-бальшавіцкага дактрынэрства. Таму правільна А. Макарэвіч у сваёй зацемцы ў № 9 часапісу «Беларусь» за 1957 г. упікае С. Майхровіча за тое, што той у «Нарысах беларускае літаратуры XIX ст.» аднабока й шматразова намагаецца празьмерна ўвыпукліць г. зв. жыватворчы ўплыў расейскае клясычнае літаратуры на беларускую, а прамінае ўсё адменнае й непаўторнае, што яе розьніць ад расейскай.

Макарэвіч сьцьвярджае: «...ведама, што беларускія пісьменьнікі, пераймаючы лепшыя традыцыі расейскае літаратуры, ніколі ня былі эпігонамі, пераймальнікамі, а заўсёды заставаліся арыгінальнымі, самабытнымі актыўнымі творцамі...»

Заўвага праўдзівая, адно ці можна асабліва моцна вінаваціць С. Майхровіча? Ці можна паручыцца, што гэта нутраная, не накіненая думка аўтара? Яшчэ-ж усім у памяці, калі тое самабытна-актыўнае, хоць крышку адменнае ад «вялікага й перадавога», лічылася найбольшай гэрэзіяй — кантррэвалюцыйным буржуазным нацдэмаўствам. Трэба памятаць, што паднявольнай літаратуры й літаратуразнаўстве нельга гаварыць усяе праўды. Яна вымушана часта лгаць і падаваць зло за дабро й наадварот. Тымбольш літаратуры «малодшага брата» ў бальшавіцкай сыстэме. Гэта літаратура вымушаная ўвесь час азірацца, прыслухоўвацца да наказаў партыйных цівуноў ды баязьліва плесьціся ў хвасьце «вялікае, перадавое».

Гэтак было й будзе. Толькі часовая разгубленасьць і грызьня за ўладу на бальшавіцкім алімпе, выкліканыя сьмерцю аднаго дыктатара, спрычыніліся да зьяўленьня нясьмелых спробаў савецкай расейскай літаратуры стацца тым, чым павінна быць літаратура — сумленьнем і праўдай.

Мроі гэныя хутка выбілі з галавы. Усім ведамы іхныя вынікі на прыкладах рамана Дудзінцава, твораў Кірсанава ды іншых. Сам, новы галоўны дыктатар, загадаў літаратуры быць ізноў партыйнай, г. зн. паднявольнай, што павінна, як казаў у вапошнім рамане «Доктар Жываго» Б. Пастэрнак (раман гэны ўжо цяпер не пабачыць сьвету ў СССР у першапачатнай аўтарскай рэдакцыі): «...навучыць людзей ня думаць і не разважаць, змусіць іх бачыць рэчы, якія ня існуюць, і даводзіць адваротнае таму, што яны бачаць..»

На вярхоўны загад, як і раней, адгукнуўся хор нявольнікаў ува ўсім неабсяжным СССР. Пасьпяшыўся Б. Пастэрнак із сваім: «... мы думалі прамінуў той час, калі чалавек трымаўся сваіх маральных пераконаньняў. Мы думалі, што пець трэба было хорам і жыць згодна з вызначанымі паняцьцямі зьверху...»

Пець хорам дытырамбы панявольніку, хваліць злачынствы, хамства й шаленствы дыктатуры — застаецца галоўным наказам і далей.

І пакорна сьпяваюць. Захлынаецца ў сьпеве на «Сходзе актыву работнікаў літаратуры і мастацтва рэспублікі» старшыня Праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў БССР, П. Броўка, бо бачыце: «.. Беларуская савецкая літаратура ня мела такіх хібаў (Дудзінцаў ды іншыя), а гэта сьветчыць... пра ейны **высокі ідэялягічны ўзровень!»**

Ведама, што, седзючы на такой «ідэялягічнай вышыні», можна часамі паказваць і адмоўнае тое, што перашкаджае бальшавізму ісьці наперад, але «... нельга ня бачыць таго вялікага, сьветлага, чаго мы дасягнулі за 40 год савецкай улады» навучае П. Броўка, і тут-жа павучнёўску пераказвае ня новы загад, хоць і новага «хазяіна» — падыходзіць да ацэны зьяваў жыцьця «па партыйнаму», глядзець на іх «войстрым і праўдзівым бальшавіцкім вокам».

Бедны Броўка! Не дапамагла й вайстрыня бальшавіцкага вока. Хор актыву, калі глянуць на яго тым вокам, сьпяваў ня зусім удала. У запраўднасьці, калі адкінуць усе сацыялістычныя кляцьбы, ён якраз і паказаў, «чаго мы дасягнулі за 40 год савецкай улады».

А дасягнулі мы таго як выявіў актыў, што каштоўныя старажытныя помнікі і архітэктурныя пабудовы разбураюцца, а ахова іх не наладжана. «У літаратуры мала выразных нацыянальных характараў. У лепшым выпадку з твору можна даведацца, што дзея адбываецца ў Бе-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Калісь нехта назваў Сталіна архітэктам Атлянтычнага саюзу й стваральнікам еднасьці заходняга фронту. Пасьлясталінскія часы прынесьлі паслабленьне гэтага фронту й еднасьці. Было-б добра, каб гісторыя прызнала Хрушчову ганаровую ролю кансалідатара абароны Захаду. Праўда даволі брутальнымі штуршкамі абудзіў разаспаных заходніх палітыкаў, але пакуль-што яны, як раптоўна абуджаныя із сну, хаатычна мітусяцца на месцы, стукаюцца галовамі й адзін другому наступаюць на мазалі. Таму з надзеяй і зацікаўленьнем чакаецца канфэрэнцыі кіраўнікоў урадаў краінаў НАТО, якая адбудзецца ў палове сьнежня ў Парыжы. Будзе гэта найбольшая ад часу йснаваньня НАТО канфэрэнцыя й на найвышэйшым герархічным узроўні. Галоўнымі тэмамі гэтай нарады будуць: спалучэньне навуковых і матар'яльных магчымасьцяў заходняга сьвету, разьмешчаньне базаў кіраваных ракетаў на эўрапэйскім кантынэньце, пляны больш цеснага палітычнага й гаспадарскага супрацоўніцтва ды палажэньне ў Паўночнай Афрыцы й на Сярэднім Усходзе.

Будзем спадзявацца, што гэтая канфэрэнцыя спыніць урэшце мітусьню і ўстановіць парадак.

*

Калі савецкія дасягненьні й хрушчоўскія маханьні рукавамі выклікалі слушнае занепакаеньне й насьцярожанасьць на Захадзе, дык заходнія дыпляматы й навукоўцы непатрэбна павялічваюць гэтую ўстрывожанасьць ды гэтым самым робяць непатрэбную прыслугу Маскве. Вось-жа тыя самыя людзі, якія дагэтуль цьвердзілі, што Савецкі Саюз далёка адстаў ад Захаду, сяньня заглядзіўшыся на штучных сатэлітаў зямлі, навыперадкі ліцытуюцца ў даводжаньні, на колькі Савецкі Саюз апярэдзіў Захад. Вось-жа адны, вучоныя цьвердзяць, што Захад адстаў на адзін год, іншыя, што — на два, яшчэ іншыя гавораць аб чатырох а знайшоўся навет такі, які вырваўся, як Пiлiп з канапель, загалёкаў, што бальшавікі апярэдзілі Захад аж на дзесяць год. Між іншым, Масква вельмі ўдала выкарыстала гэтую апінію ў сваёй прапагандзе. Нядаўна на аднэй сэсіі падкамісіі сэнату дэмакратычны кандыдат на становішча заступніка прэзыдэнта ЗША, сэнатар Кіфаўэр, цьвердзіў, што ў галіне кіраваных і балістычных ракетаў бальшавікі апярэдзілі Амэрыку на два гады. Ці так ёсьць у запраўднасьці — цяжка цьвердзіць аўтарытэтна, бо бальшавікі нікому не дэманстравалі сваіх дасягненьняў у гэтых галінах. Да бальшавіцкіх бяссумлеўных дасягненьняў трэба адносіцца паважна, але няма сэнсу павялічваць псыхозы ўстрывожанасьці. Таксама трудна аблічваць гадамі гэтыя дасягненьні — дыстанс будзе залежаць ад волі й высілку Захаду даганяць, праціўніка, бо магчымасьці напэўна ёсьць.

Апошнім часам шэф амэрыканскай разьведкі паведаміў, што бальшавікі маюць падводныя лодкі, якія, навет будучы пад вадой, могуць выкідаць вадародныя тарпэды на адлегласьць 1000 міляў. Заходняя прэса падхапіла гэтую вестку й так чорна размалявала небясьпеку гэтай запраўды грознай зброі, што хоць падымай рукі ды здавайся.

Вось-жа цікава колькі ў гэтых вестках праўды, а колькі бальшавіцкай дэзынфармацыі. Як ведама, ня лёгка ад бальшавікоў выцягнуць тое, што яны хочаць захаваць у сакрэце. Затое да зьдзіўленьня лёгка й гладка атрымоўваем з Масквы такія «сакрэты», якія бальшавікі **хочаць** перадаць Захаду. Клясычным прыкладам такой бальшавіцкай дэзынфармацыі быў сакрэтны рэфэрат Хрушчова на XX зьезьдзе КПСС, які дзякуючы «спрыту» нейкіх разьведак via Poland у стэнаграме вельмі-ж хуценька зьявіўся на Захадзе. Аб гэтым дакладзе на Захадзе сьпісалі дзесяткі тонаў папэры, выварачвалі й камэнтавалі яго на ўсе бакі і ўва ўсіх мовах; на гэта ўсё было выдадзена цяжкія міліёны. А каму гэта памагло? У кажным выпадку не таму, хто страціў міліёны на гэты апокрыф.

Слова «апокрыф» можа ня зусім адпаведнае. Няма сумлеву, што на XX зьезьдзе Хрушчоў зрабіў сакрэтны даклад, які да гэтага часу ня быў апублікаваны ў Савецкім Саюзе. Але ўжо сяньня можна закладацца, што тэкст, які зьявіўся на Захадзе, быў адпаведна падрэтушаваны, падскрабаны і гэты тэкст Made in Moscow, via Poland або лепш via Ponomarenko, пад сьмяротным «сакрэтам», а напэўна й за добрыя грошы, быў перададзены на Захад. Аб шкодах, якія зрабіў -- іншым разам.

Вось чаму разьдзьмухоўваньне трывожных настрояў і ўпаданьне з аднэй скрайнасьці ў другую, можа быць перадчасным, а напэўна — шкодным.

У гэты дзень, калі пішыцца гэты агляд, мае быць пушчаны амэрыканскі штучны спадарожнік зямлі. Думаем, што будзе лятаць. Пакуль-што толькі чатырохфунтовы. Праўда, сланя туды ўціснуць ня можна. Але няхай лятае хоць з блыхой, абы лятаў...

Далей пабачым...

## АД РЭДАКЦЫІ

**У прысланым нам зь Нью Ёрку й надрукаваным у «Бацькаўшчыне» (№ 46 за 17 лістапада 1957) артыкуле «Цэзарава — цэзару, Божае — Богу», як мы потым даведаліся, некаторыя факты былі нязгодныя з праўдай. У сувязі з гэтым Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» зьвярнулася да адпаведных нашых супрацоўнікаў у Нью Ёрк з просьбаю ўдакладненьня ўспомненых фактаў, пасьля чаго будзе зьмешчанае адпаведнае спраставаньне.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Аб беларускай савецкай паэзіі

(Артыкул апошні, гл. №№ 40, 42-43 і 48)

Толькі што хацеў пісаць аб цікавым і характэрным факце «палярных настрояў» у сучасным беларускім вершы, як на бачынах «Бацькаўшчыны» (№ 45) прачытаў артыкул аб тым-жа самым, што й адказвала майму намеру. Да таго, што ў гэным артыкуле зьмешчана, хочацца дадаць толькі чатыры радкі паэты Шымука:

«Ты адкуль Васілёк? —
Так настаўнік спытае.
— Беларус я, — адкажа, —
Ураджэнец Алтая…»

Паэта меўся гэтымі словамі паказаць дасягненьні «сацыялістычнага пераўтварэньня», але паводля сваёй сутнасьці ў гэтых радкох зьмяшчаецца глыбокая й пакутная трагэдыя беларускага народу ў сучаснасьці. Былыя вязьні, што змушаныя заставацца на Поўначы на вечным пасяленьні, няшчасныя «добраахвотныя» перасяленцы, няўдалыя «гэроі цаліны, сілком і маной сьцягнутыя туды, — такі цяпер склад насельніцтва гэных мясьцінаў. Ці мала сярод іх Беларусаў — сялян, работнікаў, інтэлігенцыі? Колькі такіх Беларусаў прымусовых «ураджэнцаў» Алтаю, Сібіру, Казахстану, што зь вечнаю думкаю аб бацькаўшчыне, з параненай душою павінны жыць тут, заводзіць сям'ю, радзіць дзяцей? Бедныя беларускія «васількі», што растуць на глебе вечнай мерзлаты, пад выцьцё пургі, буруноў і мяцеліцаў!

Аднак каб скончыць свае сьціплыя разважаньні аб беларускай сучаснай паэзіі, парушу тут яшчэ толькі адно пытаньне аб істотнай тэме паэзіі — **каханьні.** Грэла яно сэрцы людзям, штурхала іх на змаганьне, цешыла й саладзіла. Хто-б калі мог уявіць сабе паэзію бяз тэмы аб каханьні? Дык вось-жа знайшліся «нязломныя» партыйныя людзі, якім гэтае пачуцьцё ня толькі ня было патрэбным, але й перашкаджала, і яго сталі «выкарчоўваць» з савецкага верша. Тут мы можам бачыць дзьве выразныя тэндэнцыі. Пачнём з жыцьцёвай, практычнай. Выходзіць, што ў савецкіх умовах **кахаць няма часу,** — усё забраў сацыялістычны будаўнічы век. Дарэмна хлопец чакае на спатканьне зь дзяўчынаю. Як тлумачыць паэта Максім Танк:

«Мо з брыгадай дапазна
працавала яна
і са стану да сяла
не пайшла,
не пайшла!»

Працы, абавязкаў, плянаваньня столькі, што каханая навет баіцца, што яе мілы з прычыны закаханасьці зробіць якісь недаробак, якую памылку. Паэта Русак вуснамі маладой дзяўчыны павучае:

«Не глядзі на мяне хлопец, —
Лепш кіруй камбайнам!»

Толькі ўночы ўспамінае дзяўчына аб іхнім такім куртатым каханьні і жаліцца ў думках, што яе каханы:

«Гаварыў пра жніва многа,
Цалаваў патрошку!»

Другі й найбольш значны бок такога пытаньня ў савецкім вершы мае **ідэялягічную** падставу. Кахаць, любіць, мілаваць, песьціць у Савецкім Саюзе справа не асабістая, а партыйная, грамадзкая. Яна мае наўвеце толькі выгоды партыі, улады, таму цалкам падпарадкаваная камуністычнай маралі. Паэта Хадыка паводля партыйнай шпаргалкі аб пралетарскім інтэрнацыяналізьме й клясавасьці кажа ў вершы досыць выразна:

«Ня кажнага я
Чалавека люблю,
Ня кажнаму радасьць
У сэрцы прапета».

Кахаць можна толькі аб'ект сацыялістычны, клясава вытрыманы. Дый наагул ці можа быць гутарка аб глыбокім каханьні, калі яно разгортваецца на фоне сацыялістычнага будаўніцтва, калі падчас спатканьня галоўнаю думкаю закаханых зьяўляецца камбайн, палявая брыгада, цэгла і т. п.

Паэтка Канстанцыя Буйла, што пазнала «шчасьце» падсавецкага жыцьця, ня можа схаваць трывогі за лёс закаханых. Апошнія ў савецкім быце мусяць хаваць ад вачэй занадта «пільных» людзей сваё маленькае асабістае шчасьце, бо інакш яго асьмяюць, зганьбяць. Закаханыя прыходзяць да думкі:

«Можа ўмовімся так: мы нічога
нікому ня скажам,
Чым багата душа і чаму гэтак сьвецяцца вочы,
А то, пэўна, бар'ер папярок сьцежкі
нашае ляжыць!»
А то хтосьці другі разлучыць нас
навекі захоча!»

Аказваецца, трэба трымаць у тайнасьці і багацьце душы і чысты, сьветлы позірк вачэй!

Беларускі савецкі паэта, наагул, баіцца слова «кахаю», «люблю». Сярод паэтычнай моладзі навет узьнікалі думкі выкінуць гэтыя словы зь лексікону, абыйсьціся бязь іх. Гэтак паэта Каўрус прызнаецца:

«Я абыйдуся бяз гэтага слова,
Бо ўжо для нас яно надта ня нова!»

Аднак каханьне помсьціцца за сябе. Варта было таму самаму Каўрусу закахацца ў вадну дзяўчыну, як ён запеў зусім іншыя песьні і сьцьвярджае цяпер, што:

«Слова «люблю» наймацнейшае слова
Для маладых і гучыць яно нова!»

Шкада толькі, што ня можна голасна прызнацца і ў тым, што прырода, натура чалавека зьяўляецца найлепшым выражэньнем супрацьлежнасьці яе камунізму, што справа тут ня мае разьмежаваньня на старых і маладых. Над гэтай прыродай робяць экспэрымэнты, уціскаюць яе ў партыйныя ланцугі, прыладжваюць да агульнага рэжыму, а яна ніяк не даецца й знаходзіць сабе шчэліны, каб прабіцца на сьвет. Можна перакананa сказаць беларускім савецкім паэтам, што ніякія камуністычныя мерапрыемствы ня выкінуць пачуцьця каханьня з натуры чалавека. Слова «каханьне» запраўды наймацнейшае слова, яно будзе заўсёды і гучэць нова, і вечна юным, прывабным адценьнем сусьветнага хараства.

**М. Куліковіч**

---

## БЕЗ КАМЭНТАРАЎ

**(Працяг з 2-ое бачыны)**

выходзяць двухтысячным тыражом, дык атрымаем вельмі цікавыя й аб'ектыўна вымоўныя высновы. Пайменна, калі адзін эгзэмпляр дадзенага твору беларускай мастацкай літаратуры прыходзіцца на 800 жыхароў Беларусі, дык, калі-б прытарнаваць гэтую мерку да эміграцыйных выданьняў, на чужыне мусіла-б знаходзіцца аж адзін мільён 600 тысячаў беларускіх эмігрантаў. Тымжа часам ёсьць іх тут невялічкая жменька.

---

# У Дзяржаўным Выдавецтве БССР бязь зьменаў

У «Літаратуры і Мастацтве» за 6-га лістапада г. г. зьявіўся артыкул міністра культуры БССР Г. Кісялёва «Да новых дарог», дзе аўтар піша, што «калі ў дарэвалюцыйнай Беларусі амаль ня выдаваліся кнігі ў беларускай мове, дык за гады савецкай улады выпушчана 22 851 назоваў кніг агульным тыражом 270 966 тысяч эгзэмпляраў». Для чалавека неабазнанага з савецкай запраўднасьцяй у БССР такое цьверджаньне аўтара можа запраўды выдавацца нечым новым, што ня вымагае ніякае карэкты ці крытыкі.

Як у запраўднасьці выглядае справа з выдаваньнем кніжак у БССР, аб тых ганебных фактах абнаглелай русыфікацыі, праводжанай выдавецтвамі маскоўскага акупанта, мы свайго часу інфармавалі нашых чытачоў (гл. «І Дзяржаўнае Выдавецтва БССР русыфікуе», «Б-на» № 317-318). Мэта сяньняшняга артыкулу — паказаць чытачу той жабрацкі стан, які існуе ў галіне выдавецтва БССР у 40-ю гадавіну кастрычніцкага перавароту.

Для параўнаньня мы ня будзем браць г. зв. капіталістычных дзяржаваў, дзе выданьні аднаго аўтара маюць вышэйшыя тыражы, чымся ўсе разам за год узятыя выданьні БССР. На прыкладзе Літоўскай ССР, якая ня мела «шчасьця» быць сорак гадоў пад камуністычнай уладай, мы пакажам сяньня на тыя мізэрныя выданьні БССР, якімі бессаромна хвастаецца міністар культуры БССР Г. Кісялёў.

Перад намі каталёг мастацкай літаратуры на летувіскай мове № 105а на 1957 год, выдадзены Ўсесаюзным Аб'еднаньнем Міжнародная Кніга ў Маскве. Тут мы бачым, што летувіскае дзяржаўнае выдавецтва выдала ў 1957 г. мастацкай літаратуры 103 назовы з тыражом 1 мільён 103 тысячы паасобнікаў. З гэтага каталёгу відаць таксама, што дзеці ў гэтай рэспубліцы ў гэтым годзе на роднай мове атрымалі 68 назоваў кніжак тыражом 1 мільён 387 тысяч паасобнікаў.

Узяўшы-ж каталёг мастацкай літаратуры на беларускай мове № 95а на 1957 г. (выдадзены той самай установай што й летувіскі), мы знаходзім там мастацкае літаратуры — паэзіі, прозы й крытыкі — усяго 61 назоў (40 працэнтаў менш, чымся летувіскай) тыражом 396 тысяч (75 працэнтаў менш). Беларускім-жа дзецям было прызначана сёлета 49 назоваў кніжак тыражом 1 мільён 89 тысяч паасобнікаў.

Найвышэйшы тыраж кніжкі на беларускай мове — 10 тысяч паасобнікаў, летувіскай — 35 тысяч паасобнікаў.

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

---

## *Ліст у Рэдакцыю*

**Паважаны Спадару Рэдактару,**

не адмоўцеся, калі ласка, надрукаваць у найбліжэйшым нумары «Бацькаўшчыны» наступнае:

Я мушу пратэставаць супроць таго, што ў маёй кніжцы «Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі», а таксама ў маім артыкуле й рэцэнзіях у кн. 7-ай «Беларускага Зборніка», выданых Інстытутам Вывучэньня СССР, пароблена мноства моўных зьменаў, нязгодных із асаблівасьцямі беларускае мовы. З паміж усіх зьменаў я адзначу дзьве, належачыя да найзырчэйшых.

У кн. 7-ай «Беларускага Зборніка», на бач. 106, радкі 16-19 зьнізу надрукавана гэткае:

«Крэмль прыпукае жывых і **мяртвых** нерасейцаў бязьмежна любіць Расейцаў і імкнуцца задзіночыцца зь імі. Расейцы-ж — таксама жывыя й **мяртвыя** — заслугуюць гэтага тым, што ад іх выходзяць усе дабрыні нерасейцам».

У маім машынадруку было **мертвых, мертвыя**, а ня «мяртвых», «мяртвыя», як надрукавалі. Нат найслабшы мовавед, калі ён хоць крышку знае беларускую мову, прызнае, што такія хормы, як **мяртвы** (з **я**), у мове беларускай немагчымыя. Кажны, практычна знаючы беларускую мову, скажа тое самае. Між іншага, у «Бацькаўшчыне» такія хормы ніколі ня стрэліся.

Мой моўны карэктар узяў беларускае мяккое **м** із «мертвы» і **а** з польскага «мартвы» і стварыў «мяртвы» (**я** знача **а**, перад каторым стаіць мяккі сугук). Але-ж я пішу пабеларуску, а ня польска-беларускім сымбіёзам.

У маёй рэцэнзіі некаторых новых зьменаў беларускае нарматыўнае граматыкі й правапісу ў БССР, надрукаванай у тэй-жа 7-ай кнізе «Беларускага Зборніка» (бач. 161, радкі 1-2 зьв.) ёсьць наступнае:

«Народная мова сьветча, што **э** ў першай часьці складанага слова ў **а** не пераходзе. Прыкл.: грахаводнік, грахаводніца, радабодзь, — радкое палатно, радкое збожжа (словы, складзеныя з **рэдкі** і **пункт** бяз суфіксу **к**)».

Прымеж таго ў маім машынадруку ня **пункт** быў, але **бодка**. Вось-жа й тут мой моўны карэктар, слова «бодка» замяніў на «пункт».

**Проф. Др. Ян Станкевіч**

---

*РЫГОРУ КРУШЫНУ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОД*

*Ведамаму беларускаму паэту й супрацоўніку нашае газэты споўнілася 3 сьнежня сёлета пяцьдзесят год жыцьця. У пачатку сёлетняга году Рыгор Крушына адсьвяткаваў трыццацігадовы юбілей сваей літаратурнай дзейнасьці. Такім чынам на сёлетні 1957 год прыпалі два важныя юбілеі ў жыцьці й творчасьці нашага паэты.*

*Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» шчыра вітае Высокапаважанага Юбіляра зь пяцідзесяцігодзьдзем ягонага жыцьця й ад усяго сэрца жадае Яму памысьнасьці, здароўя, доўгага жыцьця й плоднае працы для славы беларускае літаратуры.*

*Сто год!*

---

## *Ліст у Рэдакцыю*

**Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!**

Ветліва прашу зьмясьціць у газэце «Бацькаўшчына» наступнае:

У юбілейным нумары «Бацькаўшчына» каля мае фатаграфіі была зьмешчана пахвала для мяне й нібыта мае выказваньні. У сувязі з гэтым ветліва падаю наступнае спраставаньне:

Атрымаўшы Ваш ліст, у якім Вы між іншым пішаце « ..мы зьвяртаемся да Вас з просьбай прыслаць нам найхутчэй фатаздымку дзеля зьмяшчэньня яе ў юбілейным нумары «Бацькаўшчыны». Разам з фота было-б пажадана зьмясьціць некалькі Вашых словаў аб Вашай працы для «Бацькаўшчыны», паглядах што да будучыні газэты» і г. д.

Я, не разьлічваючы ні на якую пахвалу, у добрай веры, што запраўды побач мае фатаграфіі будуць зьмешчаны й маіх некалькі словаў, напісаў наступнае:

«Я — кораценька. Праца кальпартэра ў параўнаньні зь іншымі ахвярнымі працамі для бацькаўшчыны, мае тую перавагу, што выконваючы яе, ня трэба вырашаць ніякіх праблемаў вонкавае ці нутранае палітыкі нашага гаспадарства. Ня трэба прысутнічаць ні на якіх зьездах і паседжаньнях. Ня трэба выгалошваць ніякіх прамоваў і рэфэратаў — адным словам, праца паважная й карысная для бацькаўшчыны й для «Бацькаўшчыны». Апрача таго з усіх бакоў чуеш толькі ўдзячнасьць. І «Бацькаўшчына» дзякуе, і падпішчыкі газэты й набыўцы кніжак дзякуюць. Асабліва моцна былі ўдзячныя нашы сыднэйскія сябры, калі я згадзіўся быць кальпартэрам, і выглядала так, як быццам цяжар ім зваліўся з плеч. Я асабіста вельмі задаволены з гэтае ахвярнае працы й заўсёды, калі атрымоўваю пачку газэтаў ці кніжак — ссоўваю капялюш на адно вуха й сьпяваю: «А таму што без вады і ні туды і ні сюды!» Для «Бацькаўшчыны» жадаю й далей годна й высока нясьці сьцяг, так як яна нясла й нясе яго. І калі не перашкодзяць нам ніякія «непрадрашэнствы» — жадаю «Бацькаўшчыне» быць на Бацькаўшчыне разам з намі».

Прашу прыняць выразы глыбокае пашаны —

Аўстралія, 20. 11. 57

**А. Васіленя**

---

Нешта іншае гаворыць:
„Там далёка, ў краі родным,
Горы цьвёрдыя ўзьняліся;
У глыбі тых гор зялеза
Пахавана на сякеру.
Там далёка, ў краі родным
Ёсьць лясы з дубоў вялізных:
З самага старога дуба
Для сякеры выйдзе ручка.
Край мой родны! Край мой верны!
Зродзіш, край ты, чалавека,
Што зьмяю майго мучэньня
Ўраз заб'е сякерай войстрай".

1909

—◇—

* * *

**(З Шылера — пераклад зь нямецкае)**

Хочаш сябе ты пазнаць, —
паглядзі на людзей, на іх справы;
Хочаш людзей зразумець, —
ў сэрца сваё зазірні!

1910

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Ціхі і сіні блішча над хатай
Неба прастор.
Ціха гайдае ліпа над хатай
Лісьця вузор.
Ў небе рахманы, срыбраны голас
Звону гудзіць.
Птушкі маркотнай зь дзерава голас
Сумна зьвініць.
Божа мой. Божа! Мірна ліецца
Вокал жыцьцё.
Ў горад ад гэтай цішы ліецца
Шумнае ўсё.
Што гэта? Сьлёзы? Што-ж учыніў ты,
Бледны ад іх, —
Горка паведай, што-ж учыніў ты
Зь дзён маладых?

1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Сон цёмны ўсё мацнее,
Мне дзьме жыцьця рушэньне.
Засьнеце, ўсе надзеі!
Засьнеце, ўсе хаценьні!

Ўжо памяць я губляю
Пра добрае і злое,
Ня ведаю, ня знаю…
О, здараньне благое!

Я — нібы ў склепе зыбка,
Каторую калыша
Чыясь рука няшыбка…
О, дайце цішы… цішы…
1912

—◇—

**АСЕНЬНЯЯ ПЕСЬНЯ**

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Як раньш, пяе
І ў сэрцы б'е
Сумны тон.
То, восень, іх,
Хворых тваіх
Скрыпак стогн.
Чу! Часу ўдар!
Бялее твар,
Рвецца ўздых:
Ўстаў карагод
Мінулых год,
Дзён былых.
Віхор ліхі,
Што ў лісьць сухі,
Дзьме ў мяне.
Нясе туды,
Нясе сюды,
Удаль імкне.
1912

—◇—

* * *

**(З Вэрлена — пераклад з францускае)**

Плач сэрца майго,
Як над горадам дождж.
Скуль расьце, для чаго
Смутак сэрца майго?
Шум ціхі дажджа
Над будоўляй, зямлёй…
Ты тужыла, душа,
Раньш па песьні дажджа.
Шчыміць бяз прычын
Ў бедным сэрцы маім.
Ужо няма злых часін, —
Гэты плач — бяз прычын.
Няма горш бяды,
Як рыдаць ні з чаго, —
Без надзей і нуды,
У мяне шмат бяды.
1912

—◇—

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

### БЕЛАРУСЫ Ў МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНЦЭРЦЕ Ў НЬЮ ЁРКУ

Folk Festival Council (Камітэт для справаў народных мастацтваў) у Нью Ёрку цікавіцца захаваньнем паміж нацыянальных групаў Амэрыкі іхнага народнага мастацтва й традыцыяў. У Камітэт уваходзяць таксама й Беларусы. Сябры Камітэту рэгулярна ладзяць, у форме міжнацыянальных канцэртаў, мастацкія фэстывалі. 17 лістапада сёлета адбыўся адзін з гэткіх фэстываляў, у якім прынялі ўдзел: Амэрыканскія Індыяне, Армяне, **Беларусы,** Грэкі, Ірляндцы, Мадзяры, Палякі, Філіпінцы, Французы, Швэды і Украінцы. Гледачоў зыбралася каля тысячы чалавек. Канцэрт быў адкрыты пазнаямленьнем публікі ізь сьцягамі народаў, што прыймалі ўдзел у канцэрце, сярод якіх стаяў і беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Беларускае мастацтва было прадстаўленае беларускім народным хорам із Саўт-Рывэру пад кіраўніцтвам хормайстры сп. В. Селях-Качанскага (пяць беларускіх народных песьняў) і танцавальнай групы ньюёрскага аддзелу БАЗА (народны танец «Крыжачок»).

З нагоды канцэрту была наладжаная таксама выстаўка народнага мастацтва розных народаў, у тым ліку й беларускага мастацтва (нацыянальная вопратка, тканіны, паясы, мастацкія вырабы і прыгожы абраз мастака П. Мірановіча «Перад бурай»). Беларускі аддзел выстаўкі быў зарганізаваны зь ініцыятывы ЗБМ і БІНіМ.

З

### ІНЖЫНЕР-АРХІТЭКТАР АЛЬБЭРТ АСОЎСКІ

Інжынер-архітэктар Альбэрт Асоўскі, сябра Крывіцкага Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны, працуе як мага, спаўняючы заданьні Т-ва, дарма што ў Атляньце, дзе ён апынуўся на рабоце, няма Беларусаў. Сп. Асоўскі рэпрэзэнтуе Беларусаў у мясцовым Міжнародным Клюбе. Там-жа ён меў шмат разоў чытані зь гісторыі Беларусі і беларускіх народных звычаях. Архітэктар Асоўскі прыняты за сябру да прафэсіянальнае арганізацыі амэрыканскіх архітэктараў.

### РАЗЬВІТАЛЬНЫ ВЕЧАР

3-га лістапада сябры мясцовае сэкцыі Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі ў Ле Крэзо наладзілі разьвітальны вечар з нашым сябрам Юркам Гасьцеявам і ягонай сям'ей, якія пакінулі Францыю й выехалі ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.

Сябра Гасьцеяў прыехаў у Крэзо ў 1945 годзе й быў адным з заснавальнікаў мясцовае сэкцыі АБРФ. Увесь час ён быў вельмі актыўным працаўніком на нашай грамадзка-нацыянальнай ніве. Мы, сябры сэкцыі, будзем заўсёды памятаць тую адданую працу, якую ён вёў разам із сваёй жонкай на тутэйшым грунце. Жадаем ім усяго найлепшага ў іхным жыцьці ў новай краіне. Маем таксама надзею, што ў хуткім часе прачытаем аб іх штось і на бачынах «Бацькаўшчыны».

М. Б

### ГАДАВЫ СХОД СЭКЦЫІ АБРФ У КРЭЗО

24-га лістапада ў сындыкальнай залі хрысьціянскага сындыкату адбыўся гадавы сход мясцовай сэкцыі Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі.

Сход адкрыў старшыня ўступаючага ўраду сп. Булыга, які зрабіў справаздачу зь дзейнасьці за мінулую кадэнцыю.

Пасьля дыскусіі над справаздачай, уступаючаму ўраду быў прызнаны абсалюторыюм з падзякай.

У новы ўрад былі выбраныя наступныя сябры: сп. Нагорны Браніслаў (старшыня), сп. Булыга Міхась (сакратар) і сп. Рашкевіч Францішак (скарбнік). У рэвізійную камісію ўвайшлі сп. Баўм Эрнэст і сп. Горват Вацлаў.

Новы ўрад абмеркаваў плян працы сэкцыі на бягучую кадэнцыю.

Усім сябром сэкцыі і ўраду жадаем усяго найлепшага ў працы на карысьць нашай грамадзка-нацыянальнай справы.

✳

11 лістапада сёлета заходнія дзяржавы ўрачыста адзначалі 39-ыя ўгодкі заканчэньня вайны ў 1918 г. Усюды адбываліся вайсковыя парады й цывільныя ўрачыстасьці. Дэлегацыя ад нашай сэкцыі прыняла ўдзел у парадзе й зложыла вянок красак із бел-чырвона-белай істужкай ля памятніка Нязнанаму Жаўнеру.

М. Б.

### У МЮНХЭНЕ

1-га сьнежня беларуская калёнія ў Мюнхэне ўрачыста адзначыла 37-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

У царкве сьв. Паўла, дзе звычайна адбываюцца беларускія Багаслужбы, а. Салавей адслужыў адмысловы малебен, а таксама паніхіду па паўшых героях-случчакох і наагул усіх тых, што жыцьцё сваё склалі на аўтар Бацькаўшчыны.

Урачысты сход мясцовае калёніі, што адбыўся ў залі пансіёну «Мар'яндэль», адкрыў сп. Кабыш. У сваім уступным слове сп. Кабыш падчыркнуў асабліва два моманты Слуцкага Паўстаньня: яго народнасьць і адданасьць ідэі БНР.

Тут-жа была праслуханая адмысловая аўдыцыя беларускай сэкцыі радыя «Вызваленьне», прысьвечаная Слуцкаму чыну й перададзеная на бацькаўшчыну.

Найграныя на йстужку з кружэлак беларускія народныя песьні ў выкананьні выдатнага беларускага сьпевака Забэйды-Суміцкага выклікалі нязвычайнае захапленьне прысутных.

Вядомыя беларускія паэты, што прабываюць цяпер у Мюнхэне — Уладзімер Дудзіцкі й Рыгор Крушына — на просьбу прысутных чыталі свае некаторыя творы патрыятычнага зьместу. Асаблівую ўвагу прысутных зьвярнуў урывак зь нядрукаванай яшчэ патрыятычнай паэмы «Прысяга» Ул. Дудзіцкага.

Такім чынам, скромна, але ў цёплай і дружнай атмасфэры, мясцовыя Беларусы адзначылі гэтую сьвятую для беларускага народу дату.

Г.

## „Зь беларускага каменнага будаўніцтва XI-XIII стг."

### З КРЫВІЦКАГА НАВУКОВАГА ТАВАРЫСТВА ПРАНЦІША СКАРЫНЫ

9-га лістапада адбылася зборка Крывіцкага Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны, на каторай пастанавілі, што Таварыства мае належыць да Беларускага Таварыства Памогі, што закладзена нядаўна ў Нью Ёрку, а таксама да Задзіночаньня славянскіх навуковых арганізацыяў, існуючых у Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі.

На тэй-жа зборцы Др. Я. Станкевіч меў чытаць на тэму: «Зь беларускага каменнага будаўніцтва XI-XIII стг.» У ўступе чытальнік агульна расказаў пра беларускае каменнае будаўніцтва старавечнае пары і далей разгледзеў каменныя будынкі места Горадна (ля Нёмну).

Ня лішнім мо' будзе гэтта зацеміць, што ў Беларусі ёсьць тры месты зь вельмі падобнымі назовамі, — Горадзен ля Нёмну, Горадна на Палесьсі (ляжыць паміж рэкамі Стырам і Гарыняй, паўднявымі прытокамі Прыпяці) і Горадня на Северщчыне (у беларускай Чарнігаўшчыне). У нашым друку, бывае, мяшаюць і Горадзен ля Нёмну завуць абмыльна Горадняй; прымеж таго ўся акалічная люднасьць завець яго Горадзен. Таксама паходзячы з-пад Горадна (зь мястэчка Ськідзеля) Макар Косьцевіч у сваім вершы кажа: «Наш слаўны **Горадзен** стары».

Чытаньнік паказаў, што было мяшаньне і ў навуцы, але накшага характару: мяшалі самыя месты, а ня іхныя назовы, наймя ажно да апошняга часу ўважалі, што менка ў летапісе аб Горадне з каменнай царквою, каторая згарэла ў 1183 г., ды менка аб Горадне ў «Слове аб палку Ігаравым» адносяцца да Горадна палескага. Цяпер-жа даведзена, што гэтыя менкі адносяцца да Горадна ля Нёмну. Архэалягічныя раскопы ў палескім Горадне не знайшлі ніякіх сьлядоў каменнага будаўніцтва; прымеж таго ў Горадне ля Нёмну было колькі каменных цэркваў і іншых будынкаў.

У 20-30 гадох XII стг. у цэнтры горадзенскага гораду (цьвердзі, «крепости») была памуравана багата прыбраная сьвятыня, ведамая пад назовам «Дольняе царквы». Яна чыста своеасаблівая, зьзяючая, колерная, жыцьцярадасная, чым вельмі розьніцца ад стродкага выгляду сьвятыняў Украіны. Дойліды зусім чыста праявілі свой народны смак. Дыкжэ тут, казаў чытальнік, есьць тое, што ўласьціва ўсяму беларускаму царкоўнаму мастацтву — незалежнасьць ад бізанцкага ўплыву. Фасады Дольняе царквы прыбраныя ўстаўленьнем із нячуванай адвагаю сьцягу вялікіх паліраваных колерных камянёў. Дасьледваньнікі прызнаюць, што будаўнічы гэтае царквы «быў выдатны архітэктар-мастак».

У 80-ых гадох XII стг. была памураваная Барысаглебская царква, званая Каложскай, бо стаіць на Каложы, перадмесьцю старога Горадна, за ракою Гараднічанкаю. Усе асаблівасьці гэтае сьвятыні — круглыя, стройныя стаўпы, лягкія бальконы спабывалі яе прастору хмарнасьці й прыцісьненасьці, робячы яе падобную да прасторнае высокае залі. Чысьленыя вокны ў сьценах і барабане галавы шчодра залівалі гэтую залю сьвятлом. Дык і ў гэтай царкве горадзенскія дойліды яшчэ самастайней і адважней паставіліся да свайго заданьня і ўнесьлі навет у самую кампазыцыю сьвятыні радасны настрой, вызваліўшы яе ад суровае хмарнасьці й сьцісьненасьці.

У трэйцяй чэцьверці XII стг. абарона гораду была ўзмоцненая мураванымі вежамі. Цікава, што вежы таксама былі прыбраныя ўстаўленьнем колерных камянёў.

Дасьледвальнікі прызнаюць, што памяткі горадзенскае архітэктуры ясьнюсенька сьветчаць, што ў Горадне вытваралася школа будаўніцкага мастацтва.

Дойліды іншых беларускіх земляў добра знали горадзенскія спосабы каменнага будаваньня. Гэтак, прыкладам, калі ў Аўручу княжыў Рурык Расьціславіч, дык ягоны знаменіты дойлід, Пётра Міланег, муруючы царкву сьв. Васіля ў канцы XII стг., прыбраў яе фасады ўстаўленьнем колерных камянёў.

Архэалёг-архітэктар М. Варонін пераканаўся, што Горадзен ня быў адзіным беларускім местам у Ўзьнёманскім краю. «Датулешнія даныя пра сьцяг старавечных гарадзішчаў і пра найбольшае зь іх у Ваўкавыску» паказваюць, што дальшыя архэалягічныя раскопы яшчэ болей выясьняць культуру мескіх цэнтраў XI-XIII стг. гэтае часьці Беларусі. Варонін правільна ацаніў вялікае значэньне беларускіх местаў XI-XIII стг. Узьнёманьня дзеля ўмацаваньня й культуры Вялікага Княства Літоўскага, што пасьлей арганізавалася гэтта, дадаў чытаньнік, задзіночанага беларускага гаспадарства.

Пр. М.

### У ДЗЯРЖАЎНЫМ ВЫДАВЕЦТВЕ БССР БЯЗЬ ЗЬМЕНАЎ

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

З вышэй наведзеных фактаў, зачэрпнутых із савецкіх крыніц, вельмі добра відаць, што ў чатыры разы колькасна меншы ад беларускага летувіскі народ, з тае прычыны, што ня быў звыш дваццаці гадоў пад расейскай акупацыяй, мае поўную змогу у шмат разоў больш за Беларусаў выдаць і распаўсюдзіць на роднай мове кніжак.

Не на дарэвалюцыйныя беларускія выданьні, а на гэтыя яскравыя факты, на гэтую галечу й жабрацтва павінен быў зьвярнуць увагу міністар Кісялёў, і тады-б, кажны, прачытаўшы ягоны перадавы артыкул да саракагодзьдзя Кастрычніка, мог-бы мець поўную ўяву аб «дасягненьнях» выдавецкага руху ў БССР, які не да новых вышынь, а да заняпаду вядзе наш народ.

М. Вярба

### УВАЗЕ БЕЛАРУСАЎ КАТАЛІКОЎ

**Ведамы беларускі рэлігійны й грамадзкі працаўнік ксёндз Францішак Чарняўскі собскім коштам перавыдаў фатаграфічным спосабам выдадзены ў 1927 годзе ў Вільні**

**«КАРОТКІ КАТЭХІЗМ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ—КАТАЛІКОЎ»,**

**апрацаваны кс. др-ам Я. Рэшэцям.**

**Жадаючыя атрымаць гэтую кніжачку могуць зьвяртацца на адрасы кс. др. Я. Рэшэця або кс. Ф. Чарняўскага, якія ніжэй падаюцца:**

Rev. J. Rešeć
St. Procopius Abbey
Lisle, Illinois, U. S. A.

Rev. F. Černiaŭski
122 Vliet Boulv.
Cohoes, N. Y. U. S. A.

### П О Ш У К І

**Зайка з Запольля (Косаўшчына), які пасьля вайны жыў у лягеры Вайдэн, шукае Рыгор Зайко, які жыве ўжо каля 40 год у Канадзе. Весткі просіцца слаць на адрас: Mikola Schust, 213 Emerson Ave. London, Ont. Canada**

# Да ўсіх Беларусаў

**Дарагія Суродзічы!**

Для бальшыні з нас мінула ўжо дванаццаць год ад таго часу, калі мы пакінулі Беларусь, каб шукаць новых шляхоў жыцьця й змаганьня, новых магчымасьцяў і далей ходацца з чырвоным камунізмам, што тады яшчэ раз паняволіў нашую Бацькаўшчыну.

Ці мала гора пазналі мы па розных закутках і лягерах, пакуль паўладжваліся ў вольным сьвеце. Прыйшлі мы ў гэты вольны сьвет як палітычныя эмігранты, шукаючы ў ім не дабрабыту, а шляхоў да змаганьня як мага за вызваленьне Беларусі.

Зусім аб'ектыўна трэба сьцьвердзіць, што прамінулых гадоў мы тут не змарнавалі, бо вольны сьвет, які рыхтуецца да загрудкаў з камунізмам, ведае ўжо й нашую праблему змаганьня за незалежнасьць. Нельга аднак не адзначыць, што дасягненьні ў нашай палітычнай працы маглі-б быць куды большыя й лепшыя, калі-б кажны з нас, палітычных эмігрантаў, шчыра выкарыстоўваў усе магчымасьці й свае здольнасьці для справы папулярызацыі беларускае незалежніцкае ідэі.

Аднак, нажаль, трапляюцца між намі й такія адзінкі, што, здабыўшы сабе матар'яльны дабрабыт, забыліся зусім на незалежніцкую ідэю. Здараюцца й гэткія, што чураюцца сваіх грамадзкіх ці палітычных арганізацыяў, быццам не пагаджаючыся зь іхнаю палітыкай, а запраўды — дзеля таго даляра ці фунта, якога час-часом просяць гэтыя арганізацыі.

Кажная грамадзкая, а пагатоў палітычная праца патрабуе паважных фінансавых рэсурсаў. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ўжо колькі год таму стварыла ФОНД БНР, што зьбірае ахвяры ад усяе беларускае палітычнае эміграцыі. Дзякуючы ахвярнасьці бальшыні нашых суродзічаў, каса Фонду БНР можа пакрываць хоць сама канечныя выдаткі, зьвязаныя зь дзейнасьцяй Рады БНР.

Набліжаюцца 40-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Уся нашая эміграцыя як мага стараецца штогоду ўрачыста адзначыць дзень 25 сакавіка, а 40-ыя ўгодкі яго напэўна пастараецца адсьвяткаваць як найбольш урачыста.

Дык Сакратарыят Фінансаў Рады БНР гэтым зьвяртаецца да ўсяе беларускае эміграцыі з просьбай канкрэтна прычыніцца да гэтага адзначэньня 40-ых угодкаў незалежнасьці Беларусі праз фінансавае падтрыманьне Фонду БНР. Кажны суродзіч, падтрымваючы фінансава Фонд БНР, гэтым самым даложыцца да стварэньня лепшых магчымасьцяў для дзеяньня ворганаў БНР, якія, не зважаючы на ўсе цяжкасьці й перашкоды, упорыста працуюць на дабро нашае незалежніцкае ідэі.

Панявольнік Беларусі, маскоўскі камунізм, ужо ад году рыхтаваўся да адзначэньня 40-ых угодкаў свае кастрычніцкае рэвалюцыі. Нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне, жывучы ў ведамых нам абставінах, змушаюцца да катаржнае стаханаўшчыны ў зьненавіджаных калгасах. Паэтаў і пісьменьнікаў тураць на заказ выхваляць «райскае жыцьцё». Рыхтаваньне да 40-ых угодкаў таго кастрычніка каштавала нашым суродзічам шмат здароўя, гора й сьлёзаў. І адна там надзея ў іх на Бацькаўшчыне на нас, на беларускую палітычную змагарную грамаду ў вольным сьвеце.

Сакратарыят Фінансаў Рады БНР ветліва просіць кажнага Беларуса й кажную Беларуску, што працуюць і зарабляюць на эміграцыі, канкрэтна прычыніцца да адзначэньня 40-ых угодкаў 25 сакавіка, што неўзабаве надыходзяць. Няхай кажны зробіць магчымы яму грашовы ДАР САКАВІКА ў Фонд БНР, прычыняючыся гэтым самым да забясьпечаньня большых магчымасьцяў для карысьнейшага й шырэйшага дзеяньня ворганаў БНР.

Ахвяры Дару Сакавіка будуць зьбіраць па беларускіх асяродках на падпісныя лісты прадстаўнікі Фонду БНР.

Суродзічаў, што пражываюць паза беларускімі асяродкамі й да якіх прадстаўнік Фонду БНР ня зможа дайсьці з падпісным лістом, просіцца ветліва слаць ахвяры на адрыс аднаго зь ніжэй пададзеных скарбнікаў Фонду БНР.

**(—) В. Кажан**
**Скарбнік Рады БНР**

Адрысы скарбнікаў Фонду БНР:

Mr. V. Kazan, 56 Lockwood Ave. Stamford, Conn. USA.

Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. Canada.

Mr. A. Laszuk, 174, Finborough Rd. London S. W. 10, England.

Z. B. V., 1, Swift Street, Northcote, Victoria, Australia.

### ШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 14 Steel St., Spotswood-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, **Tiridentes,** Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. M. W. Kastelan,** 2, Rue Galvani Roubaix (Nord).

### АБВЕСТКА

ЗБМ у Клыўлэндзе гэтага году выдае прыгожыя каляровыя калядныя карткі. Будзе 17 розных, каштуюць таксама, як і амэрыканскія. Заклікаем паважанае грамадзтва набываць беларускія карткі, чым кажны дапаможа ў выданьні вялікага «Беларускага Песеннага Зборніка».

Таксама просім купляць насьценную Пагоню, даход пойдзе на тую-ж самую мэту. У кажнай беларускай хаце павінен быць беларускі нацыянальны гэрб — Пагоня.

Заказы можна накіроўваць на прадстаўніцтва «Б-ны» ў Клыўлэндзе.

Кіраўніцтва

### УВАГА, БЕЛАРУСЫ АЎСТРАЛІІ

**У сувязі з адмысловым зваротам да беларускае эміграцыі ў справе ДАРУ САКАВІКА на Фонд БНР, просіцца ўсіх нашых суродзічаў якім ня будзе прадстаўлена падпісная ліста слаць грошы на наступны адрас:**

**Z. B. V.**
**1, Swift St.,**
**Northcote, Victoria**
**Australia.**

## У В А Г А!

### ДА НАШЫХ СУРОДЗІЧАЎ

**Пачынаючы ад 6-га лістапада г. г. беларускія праграмы радыя «Вызваленьня» пашыраюцца з дваццаці хвілін да паўгадзіны і паўтараюцца 20 разоў у пару.**

**Беларускія праграмы перадаюцца (паводля заходня-эўрапэйскага часу): ад 5,00 до 7,00 гадз. раніцы й ад 23,00 да 1,00 ночы на хвалі 41 мэтраў; ад 9,00 да 11,00 на хвалі 31 м.; ад 11,00 да 12,00 на хвалі 25 м.; ад 21,00 да 23,00 на хвалі 49 мэтраў.**

**У Заходняй Эўропе беларускія праграмы добра чутныя ў раньніх гадзінах.**

**Беларуская Рэдакцыя Радыя «Вызваленьне»**

*Зблiжаюцца Каляднія Сьвяты!*
*А найлепшым падаркам на гэтыя Сьвяты ёсьць беларуская кніжка Выдавецтва „Бацькаўшчыны"!*





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**